 




Не буду ў вас забіраць час, дарагія чытачы, і расказваць, як Усевышні дайшоў да свайго вынаходства і з нічога зрабіў зямлю.

Распачну ад таго, як Адам прачнуўся ў раі і ўбачыў каля сябе незнаёмае, доўгавалосае стварэнне. Толькі прайшло першае здзіўленне, ён асцярожна дакрануўся пальцам да грудзі незнаёмай. Адчуў пад пальцам атласную далікатнасць скуры, прыемную цяплынь цела і прыпляснуў языком ад здавальнення.

Потым сарваўся, пакланіўся, прыкрыў далонню шыю, бо быў без гальштука, прадставіўся і даведаўся, што доўгавалосая называецца Евай. У раі не было ніводнай саперніцы, і Ева была шчаслівай, як ніякая жанчына на зямлі.

Ёй не прыходзілася марнаваць часу на праседжванне ў касметычных кабінетах, не мучылася ў цырульніка пад гарачым каўпаком і не выбірала фасонаў сукенак у краўчых. Фарсіла ў тым, чым Бог надарыў і заўважыла, што Адаму гэта надзвычай падабаецца.

# ЗА ГРАХІ прадзеда

Аднак хутка Адам пераканаўся, што Ева — стварэнне капрызнае, фанабэрыстае, патрабавальнае, крыклівае і пры найменшым непаразуменні выпускае ваду з вачэй.

Каб пазбегнуць сырасці і не набрацца раўматызму, Адам ва ўсім уступаў Еве.

У ракавы дзень, калі Ева зацягнула Адама пад забароненую яблыню, як на грэх, Усевышні быў у службовай камандзіроўцы. Хоць яблыкі былі непрычадныя, маленькія, адным словам, райскія яблычкі, але ўсё ж-такі Еве ўдалося спакусіць Адама. Вядома, Ева не ведала, што ў садзе зроблены пералік і ўсе яблычкі падлічаны. Калі Ўсевышні вярнуўся, убачыў пад дрэвам агрызкі яблык. Ён хутка знайшоў непаслухмяных злачынцаў і прагнаў іх з раю без двутыднёвага папярэджання.

Гэты ўчынак можна было б назваць бяздушным, аднак неабходна ўзяць пад увагу тое, што тады невядомай была дактрына: чалавек — самае каштоўнае на свеце.

На зямлі Адама і Еву ахапіла пачуццё сораму, таму некаторыя месцы свайго цела яны прыкрылі фігавым лісцём з моднымі ўзорамі.

Выгнанцы ўспомнілі словы: «у поце твару будзеш есць хлеб свой» і пайшлі шукаць пякарню, а не знайшоўшы яе, сталі сілкавацца ўсялякай раслінай дробяззю. З часам бусел прынёс ім двух сыноў — Каіна і Авеля. Адам і Ева выхоўвалі дзяцей без сямейнага дастатку і не наракалі на сямейны крызіс.

Калі дзеці падраслі, падужэлі, Каін выпусціў дух з Авеля. За свой хуліганскі ўчынак ён застаўся непакараным, таму што ў той час не было галоўнага кодэкса. У выніку з калена Каіна вывяліся нашы чыгуначнікі, якія сёння выпускаюць дух з нас у вагонах. Перамучаныя, залітыя потам, мы ездзім у цягніках. Усевышні бачыць гэта, аднак за грахі нашы не ўмешваецца ў чыгуначныя парадкі.

Дзядзька Лявонь

## САВЕЦКІ ГУМАР

### НЕЗЯМНАЯ ВЕТЛІВАСЦЬ



— Праходзьце, калі ласка, наперад.




Без слоў.



Бывае і так...

### АБ БЮРАКРАТЫЗМЕ



...І спраўку, што ты не рыба... І тры фотаздымка не забудзь!

## П'ЯНІЦА і ШАВЕЦ

(гумарэска)

Аднойчы вечарам п'яніца зайшоў да шаўца.

— За што ты кожны дзень п'еш? — звяртаецца да п'яніцы шавец. — Я так цяжка працую і не маю грошай на выпіўку.

П'яніца адказвае:

— Як у мяне застанецца толькі залатоўка, я ў вечары высажваю руку праз акно і крычу «грош да гроша» і мне прыбаўляецца па залатоўцы. Вось за гэта і п'ю.

П'яніца выйшаў з хаты, стаў за сцяну і чакае, ці шавец не паспрабуе лёгкага заробку.

Не памыліўся. Адчыняецца акно, высоўваецца шавецкая рука, у якой бліпічыць залатоўка, і чуецца голас шаўца:

— Грош да гроша.

П'яніца неспрыкметна палажыў яму ў руку сваю залатоўку. Бачыць шавец, спраўдзілася, і кажа да жонкі:

— Гэта малыя грошы, давай пяцьсот злотых, то будзе тысяча.

Жонка дала пяцьсот злотых. Шавец высадзіў праз акно пяцьсот злотых і крычыць з усяе сілы:

— Вялікія грошы да вялікіх грошай!

П'яніца схапіў з рукі шаўца пяцьсот злотых і пабег што сіл. А шавец крычаў, аж ахрып, а грошай сваіх не вярнуў.

П'яніца зноў будзе мець за што выпіць і напэўна пры гэтым успомніць лакомага шаўца

Янка Плева
Ласінка

## Агенцтва гумару і сатыры паведамляе

...усіх грамадскіх бібліятэкараў аб вынаходніцтве новага способа на распаўсюджванне бібліятэчных кніжак сярод сялян. Гэты спосаб просты, танны і дае стопрацэнтавую гарантыю паспяховасці. Бярыце з сабой спіс кніжак і ідзіце па вёсцы. Гаспадары маюць мяккія сэрцы — не адмовяць. У адпаведнай рубрыцы падпішуць, што чыталі «Мінскі напрамак», «Выбраныя творы» Янкі Купалы ці Коласа, «Трылогію» Сенкевіча і іншыя. А што яны не будуць ведаць, нават «з чым гэты твор ядуць» — гэта нічога не пашкодзіць.

Астаецца толькі выявіць, што вынаходніцай гэтага метада з'яўляецца І. Касцюк, бібліятэкарша вёскі Козлікі Беластоцкага павета.

На падставе інфармацыі М. В., жыхара Козлікаў, апрацаваў — Вуэр.




РЭБУС

Прачытайце беларускую народную пагаворку.




### КАЛІСЬ І СЁННЯ

Вопратка сваёй работы,
Мовы не было пра ооты,
Лапці — вось абутак першы...
Й не пісалі хлопцы вершаў,
Бо пісаці не ўмелі.
А якую страву елі?
Аснаўной была ў нас ежа:
Бульба ды... ды квасок з дзежы.
Мэбля? Так, былі ў хаце
Па-за печаю палаці.
Спала там уся сям'я,
Знаю гэта, спаў і я.
Помню тыя цёмны ночы,
Устане бацька і грукоча,
Запаліць лучыну ў копцы...
— Уставайце — кажа, — хлопцы,
Трэба жыта змалаціці,
Ды падатак заплаціці.
Уставайце й вы, дзяўчаты,
Мо' прыедзе хто ў сваты,
Адпачылі за нядзельку,
Трэ' канчаць сваю кудзельку
Сёння ўжо не тыя годы —
Шафы з люстрам, ды камоды,
Крэдансы, сталы і крэслы,
Хата бацькава ўжо цесна.
Кожнае дзяўчо ў нылёнах,
Або ў іншых там стылёнах,
У кожнай на руцэ гадзіннік,
Гэта ў нас ўжо не навіна.
А мо' хто таму не верыць?
Той няхай гады прымерыць,
Параўнае трыццаць пяты
І гадок шасцідзесяты.
Хай памерыць, параўнае
Той, хто гэта памятае.

М. ВАЛАКІТА




### ПАН

Да бацькі прыехаў сын з горада і выабражае сябе вялікім панам. Аднойчы бацька кажа да сына:

— Пайдзі заграбі панадворак.

— Не ведаю, як гэта зрабіць? — адказвае сын.

Бацька павёў сына ў гумно па граблі. Убачыўшы граблі, сын пытаецца:

— Тата, як гэта называецца?

У гэты час наступіў ён на граблі, а тыя трэснулі яго па ілбе.

— А каб вас чорт, граблі!.. — ускрыкнуў сын.

Тодар Міхалюк
Койлы

### АПОШНЯЯ ВОЛЯ

Пытаюць злачынца, асуджанага на смерць:

— Якая твая апошняя воля?

— Я хачу свежых чарэшняў, — адказвае злачынец.

— Цяпер жа зіма, няма свежых чарэшняў, — кажуць яму.

— Гэта нічога, я пачакаю да вясны, — адказвае той.

А. Хвойко
Мастаўляны.

### У СУДЗЕ

— Ці вы бачылі, як яны біліся?

— Так.

— А чаму вы не баранілі пакрыўджанага?

— Я не ведаў, хто з іх будзе пакрыўджаны.

Мікалай Кандрацюк
Гайнаўка

### ПАМІЖ ДЗЕЦЬМІ

— Ці вушы належаць да твару?

— Не ведаю. А чаму аб гэтым пытаеш?

— Бо мама казала вымыць твар, і не ведаю, ці вушы таксама.

Міхась Пятручук
Заблотчына

### НЕ ДАСТАЎ

Маці вымыла бялізну і кажа да сына:

— Ідзі павесь, толькі на сонцы.

Хлопчык залез на хату і крычыць:

— Мама, я не дастану.

Ліда Іванюк
Трэшчоткі

 